"Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі! Францішак БАГУШЭВІЧ.

# НАША СЛОВА



№ 2 (12) • ЛЮТЫ • 1991

Штотыднёвік Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны.

Кошт 10 кап. (па падпісцы 5 кап.).

## ШТО, ДЗЕ, КАЛІ

У другой докшыцкай сярэдняй школе прайшоў тыдзень беларускай мовы і літаратуры. Многія вучні прадэманстравалі добрае веданне роднай мовы, беларускай літаратуры. Васьмікласнікі падрыхтавалі літаратурную кампазіцыю, прысвечаную творчасці і жыццю вядомага беларускага пісьменніка Уладзіміра Караткевіча. Цікава прайшла гадзіна сучаснай беларускай паэзіі ў 10 «Б» класе. Паважаным госцем старшакласнікаў быў рэдактар раённай газеты «Ленінская трыбуна» І. Лазука.

(па матэрыялах газеты «Ленінская трыбуна»).

## «НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ — ГЭТА...» НА ЎСІХ МОВАХ

У № 10 часопіса «Век XX и мир», які выдаецца Савецкім камітэтам абароны міру(на рускай, англійскай, французскай, іспанскай і нямецкай мовах), надрукавана эсэ вядомага беларускага пісьменніка Уладзіміра Арлова «Незалежнасць — гэта на уік-энд у Вену...» Нагадаем, што гэтае выдатнае, энцыклапедычнае па вызначэнні тэмы, эсэ У. Арлова ўпершыню пабачыла свет у зборніку «Дзень волі 90», праўда, пад назвай «Незалежнасць — гэта...» Як бачым, кантэксты ўспрымання думак У. Арлова пра незалежнасць у гэтых выданняў розныя. Для адных самае важнае ў незалежнасці — магчымасць на суботу і нядзелю «махнуць» у Вену, а вось для другіх...

Цікавая акалічнасць: эсэ У. Арлова перадрукавана з газеты «Сибирский курьер», што выдаецца ў Новасібірску.

А. МІТРАНОВІЧ.

РЭХА — РЭХА

# ДЗЯКУЙ!

## Мы доўга не мелі і гэтага

Трынаццатага лютага нашыя народныя дэпутаты двойчы спракудзіліся. Пасля гэтага першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета БССР Станіслаў Шушкевіч у часе пасяджэння сесіі заклікаў усіх, хто за беларускую мову, пакінуць залу. «Хто за беларускую мову, прашу выйсці за мною!» — сказаў ён.

Следам за першым намеснікам выйшаў гурт парламентароў. То быў акт адчаю, пратэст супраць абструкцыі, якую двойчы ўчыніла частка народных дэпутатаў пятнаццатаму пункту праекта пастановы «Аб парадку прымянення на тэрыторыі Беларускай ССР у 1991 годзе Закона СССР «Аб падатках з прадпрыемстваў, аб'яднанняў і арганізацый». У гэтым пункце гаворыцца: «Сума прыбытку выдавецтваў і друкарняў, атрыманая ад выдання кніг і брашур на беларускай мове, падаткам на прыбытак не абкладаецца».

Увачавідкі зразумела: частка дэпутатаў з антыбеларускімі настроямі скрозь увесь час галасуюць супраць кожнае нацыянальнае праявы. Гэтак і па сёння парламент не «прызнаў» нашыя нацыянальныя сімвалы. «Чорнаю сотняю» клічуць у Менску сатняжыну дэпутатаў, якая праваліла праект закона пра рэспубліканскае грамадзянства.

Па ўсім відаць, дзяржаўную палітыку, праз якую колькі гадоў таму назад функцыянеры нішчылі беларушчыну ды цкавалі патрыётаў за «нацыяналізм», сёння ўжо ў іншых абрысах ажыццяўляюць дэпутаты з шэрагу прыхільнікаў адміністрацыйна-каманднае сістэмы. Калі раней на беларускую культуру быў усталяваны жорсткі цэнз дзяржавы і ідэалогіі, дык зараз, у больш вальнейшых умовах, яе спрабуюць падсячы эканамічна. Ажно большасць дэпутатаў схіляецца да думкі: дзяржава, якая прывяла мову сваёй карэннай нацыі да мяжы знікнення і якая ўдрузг зруйнавала культурны падмурак народа, мусіць цяпер ахвяравацца на тое, каб не абкладаць падаткам кніжкавыдавецкую дзейнасць на беларускай мове.

Насілу парламентары прагаласавалі за пятнаццаты пункт як мае быць. З трэцяга разу. Тое не ёсць наш праўны здабытак. Галасаванне больш за ўсё нагадвае міласціну. Дзякуй. Мы доўгага часу не мелі і гэтага.

Л. ВАШКО.

ЗЬНІЧ

## ГРАХІ ГІСТОРЫІ

(пакаяньне апошняга тутэйшага)

**Палюбі іншыя народы,**
**як свой уласны...**
**(З казаньняў сьвятых)**

*...я чую голас успамінаў —*
*нібы з магілы ўсіх вякоў:*
*сьвяшчэнны абавязак сына,*
*як крыж, цягнуць грахі бацькоў...*

*мне гэты камень не па сілах...*
*я падаю... і я малю:*
*«Не аддавай душу ў магілу!..*
*Ойча, я ворагаў люблю...»*

*...ўспаміны сьціішацца сівыя,*
*і голас, жорсткі і сухі...*
*і я нямытае Расіі*
*дарую даўнія грахі...*

*і новай руньню ўстануць пожні*
*стагоддзяў змрочных і глухіх...*
*і я дарую братняй Польшчы*
*яе шляхотныя грахі...*

*я ухілюся ад сірэнаў*
*і падымуся ад сахі...*
*і я Нямеччыне зьмірэннай*
*дарую марсавы грахі...*

*і Дух Сьвяты аблашчыць сэрца...*
*як ноч, адыйдзе дух ліхі —*
*і возьме валадарства сьмерці*
*мае уласныя грахі...*

*БЕЛАРУСКІ НАРОД І ЯГО МОВА*

*Эсэ акадэміка Яўхіма Карскага*

*чытайце на 2—3 старонках*

# КАБ РОДНАЯ МОВА ВЯРНУЛАСЯ Ў ШКОЛЫ

15 лютага ў Мінску у Доме літаратара бацькоўскім камітэтам, які ўжо некалькі гадоў працуе пры Саюзе пісьменнікаў Беларусі, была наладжана сустрэча бацькоў дзяцей, што навучаюцца ў беларускамоўных класах, з кіраўніцтвам народнай адукацыі рэспублікі. На вечарыну таксама былі запрошаны намеснік старшыні Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч, старшыня Камісіі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны Вярхоўнага Савета Беларусі Ніл Гілевіч, настаўнікі беларускамоўных школ, выкладчыкі ВНУ, пісьменнікі.

На шматлікія пытанні прысутных адказвалі намеснік міністра народнай адукацыі рэспублікі Валянціна Сухнат, намеснік загадчыка гарадскога ўпраўлення народнай адукацыі Рыгор Махнач, рэктар Мінскага педагагічнага інстытута імя Горкага Аляксандр Караткевіч, прарэктар БДУ Пётр Брыгадзін і прарэктар інстытута культуры Аляксандр Лягчынаў.

А фонам для сустрэчы былі плакаты, размешчаныя на сцэне, якія выразна гаварылі пра тое небяспечнае становішча, якое складваецца ў рэспубліцы: «Гімназіі, ліцэі на Беларусі: 2 — беларускія, 30 — расейскія», «Школы ў Мінску: імя Якуба Коласа, імя Янкі Купалы, імя Максіма Багдановіча, імя Францішка Скарыны — рускамоўныя!», «Плануецца адкрыць у Мінску гімназіі і ліцэі: 15 — расейскія і 7 — беларускія?!» Апошнія пад пытаннем, таму што, як сказаў у сваім уступным слове старшыня бацькоўскага камітэта Алесь Шамак, для беларускіх гімназій і ліцэяў не хапае грошай! Тут жа прагучала вострая крытыка ў адрас РАНА Савецкага раёна г. Мінска, дзе адкрыліся 2 ліцэі, 2 коледжы, 1 гімназія на расейскай мове, і толькі адзіная школа № 147 пераведзена ў беларускую. Крыўдна, балюча! Грамадства ад роднай мовы адвярнуў рэжым, які вёў народ да «агульнай» нацыі. Дзякуючы працэсам, якія адбываюцца ў рэспубліцы, Беларусь стала на шляхі Адраджэння. Дык што стрымлівае? Чаму гэтак цяжка вырашаецца праблема падручнікаў? Тры гады прайшло, як у беларускамоўныя класы прыйшлі першакласнікі, праз два гады паўстане праблема настаўнікаў-прадметнікаў. Хто гэтым дзеткам будзе выкладаць матэматыку, фізіку, хімію на беларускай мове? Чаму да гэтага часу няма слоўнікаў па тэрміналогіі? Ці паўсюдна выплочваецца 15 працэнтаў надбаўкі да заробку настаўнікам беларускай мовы і літаратуры?

Многа папрокаў прагучала ў адрас рэктара Мінскага педагагічнага інстытута імя Горкага Аляксандра Караткевіча. З абурэннем пыталіся прысутныя, як хутка ў беларускія школы і дзіцячыя садкі прыйдуць высокакваліфікаваныя настаўнікі і выхавацелі? Адпаведна рэагавала зала і на словы прарэктара БДУ Пятра Брыгадзіна, які сказаў, што ва універсітэце адкрыты беларускамоўныя плыні, у тым ліку і на журфаку. Якім жа бедным будзе наш перыядычны друк! Чаму цалкам увесь факультэт журналістыкі не пераведзены на беларускую мову? Хто гэта будзе вырашаць і ад каго гэта залежыць?

Немагчыма не пагадзіцца з тым, пра што сказаў выкладчык Мінскага педагагічнага інстытута Вінцук Вячорка: канцэпцыя двухмоўя ў рэспубліцы азначае толькі адно — забіць беларускую мову! Ён жа звярнуў увагу на тое, што трэць зместу апавяданняў у падручніках для пачатковых класаў — пра рэвалюцыю, партыю, Чырвоную Армію. Калі ж адбудзецца дэпалітызацыя нашых школ?

У сваім выступленні паэт Алесь Емяльянаў выказаў засцярогу, каб «беларусізацыя» нашых школ не стала проста чарговай кампаніяй, бо, калі гавораць «беларусізацыя», адразу ж згадваецца «электрыфікацыя», «калектывізацыя»...

Вельмі слушна прагучалі і словы намесніка старшыні Вярхоўнага Савета Станіслава Шушкевіча, што нам не пярэчыць руская культура, не пярэчаць і літоўская, і польская; прыняць адпаведныя законы перашкаджае толькі адно: агульнае бескультур'е, у тым ліку і сваё! Калі ў ЦК КПБ, можа, толькі некалькі чалавек гавораць па-беларуску, гэтаксама, як і ў Вярхоўным Савеце, дык як некаму можа балець тое, што баліць нам?!

Многа праблем было ўзнята на сустрэчы, яшчэ больш іх застаецца ў жыцці. Якой быць нашай беларускай школе, як ёй адраджацца? Думаецца, над гэтымі пытаннямі павінны задумвацца не толькі бацькі тых дзетак, што навучаюцца ў беларускамоўных класах, не толькі настаўнікі і выкладчыкі ВНУ, а і ўсё наша грамадства. І ў першую чаргу дзяржаўныя ўлады. Загавораць нашы дзеці на роднай мове — значыць будзе жыць нацыя!

Раіса БАРАВІКОВА.

**«Гімназіі, ліцэі на Беларусі: 2 — беларускія, 30 — расейскія», «Школы ў Мінску: імя Якуба Коласа, імя Янкі Купалы, імя Максіма Багдановіча, імя Францішка Скарыны — рускамоўныя!» «Плануецца адкрыць у Мінску гімназіі і ліцэі: 15 — расейскія і 7 — беларускія!»**

**Для беларускіх гімназій і ліцэяў не хапае грошай?**

## ДАРОГАМІ БЕЛАСТОЧЧЫНЫ



У студзені Таварыства Беларускай Мовы імя Францішка Скарыны правяло цікавую акцыю: беларускім школьнікам, якія вывучаюць у Беластоцкім ваяводстве родную мову, быў адвезены падарунак — кніжка «Беларускія народныя казкі», якая нядаўна выдадзена ў апрацоўцы Алеся Якімовіча і з малюнкамі Вячаслава Валынца. З гэтай нагоды Таварыствам спецыяльна быў заказаны аўтобус. У паездцы бралі ўдзел: Яўген Цумараў — намеснік старшыні ТБМ, народны дэпутат БССР, Міхась Слямнёў — таксама народны дэпутат, старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета БССР па нацыянальных пытаннях і міжнацыянальных адносінах, Яўген Лецка — пісьменнік, старшыня згуртавання беларусаў свету «Бацькаўшчына», рэдактар газеты «Дзеці і мы» пісьменнік Уладзімір Ягоўдзік, актывісты ТБМ старшы майстар Мінскага аўтазавода Барыс Родзіч, дырэктар Радашкавіцкага міжгаспадарчага прадпрыемства керамічных вырабаў Віктар Лазар, журналісты Алесь Шагун і аўтар гэтых радкоў.

*Заканчэнне на 3-й стар.*

# ЯКУЮ «НІВУ» ЎРАБЛЯЕМ?

Газета «Звязда» (№ 24) абвясціла катэгарычна — «белорусскую». Магчыма, не заўважыўшы, як гэтае слова цікава выглядае на яе першай паласе, выдрукаванае па... руску. Ды яшчэ ў загалоўку з клічнікам ў канцы, калі просіцца пытальнік. Сюжэт становіцца значна цікавейшым (і мы да яго вернемся), калі сюды далучыць два наступныя — анонс буйным шрыфтам пра тое, што член Палітбюро ЦК КПСС і першы сакратар ЦК КПБ А. Малафееў гатовы адказаць на запытанні чытачоў, «у чым заключаюцца падыходы і дзеянні Кампартыі Беларусі па дасягненню грамадскай згоды ў рэспубліцы», і інтэрв'ю сакратара ЦК КПБ А. Русецкага. У спалучэнні з вышэйпамянёнай «нивой» назва інтэрв'ю таксама набывае проста-такі мастацкую шматзначнасць. «І мэта і задача ў нас адна — абнаўленне грамадства і асобы» — так гэта гучыць. «У нас» — зразумела ў каго. Бо астатнія, дысідэнты там розныя, практычна ад працэсу «аднаўлення» адсякаюцца ўжо ў самым пачатку, першым пытаннем карэспандэнта. «Некаторыя (?) дзеячы мастацтва і асабліва лідэры (?) «нацыянальнага адраджэння»,— гаворыць ён,— бы абцугамі заціскаючы з'едлівымі двукоссямі тых ананімных «лідэраў»,(—)сцвярджаюць, што менавіта сацыялістычнае развіццё грамадства вядзе да пагібелі культуры».

Да гонару субяседніка, тон іранічных двукоссяў ён, здаецца, не вельмі ахвочы падтрымліваць і выказвае меркаванне, якім адразу выклікае да сябе чытацкую павагу. «Ісціна, — заўважыў А. Русецкі, — не губляе сваёй сутнасці незалежна ад таго, кім яна выказана». Аднак адразу, быццам спахапіўшыся, дадае, што поўную ісціну пра культуру сацыялізму ведалі толькі Маркс ды Ленін. Першы сказаў, што «камуністычная ідэя па сваёй сутнасці супадае з сутнасцю культуры... калі пад культурай разумець усё тое асяроддзе, якое вядзе да «ачалавечвання» чалавека і грамадства,ператварэння яго ў родавую істоту», а другі, Ленін, вынайшаў формулу, згодна якой «пралетарская культура-камунізм».«Так, гэта тэорыя, і я нічога не маю супраць, — памяркоўна кажа карэспандэнт. — А на практыцы?»

Ну, а паколькі «практыка» (хай чытач, калі можа, даруе гэтыя двукоссі!) была ў нас за апошнія семдзесят з гакам гадоў незвычайна багатая, то і гутарка пра яе аказалася немалая. Скажу адразу, я з павагаю стаўлюся асабіста да доктара гістарычных навук Аркадзя Уладзіміравіча Русецкага, неаднойчы давялося слухаць яго яшчэ тады, калі ён не быў сакратаром ЦК, няма за ім, здаецца, і граху цкавання дысідэнтаў і наогул вальнадумцаў, але няхай яго і надалей аберагае бог ад наезджанай каляіны партбюракратычнай зашоранасці і неталерантнасці! Бо ёсць у ягоным інтэрв'ю «Звяздзе» тое, што насцярожвае. Ды і засмучае таксама.

«А на практыцы.., — падхоплівае ён рэпліку. — Чамусьці забываецца (мяркую, што гэта робіцца наўмысна!), што ля вытокаў усіх абнаўленчых працэсаў у рэспубліцы ў 20-я гады — і беларусізацыі, і развіцця тэатральнай і кінасправы, і стварэння ўмоў для развіцця беларускай вышэйшай школы, і размаху культурна-асветніцкай дзейнасці стаялі Камуністычная партыя Беларусі, Савет усіх узроўняў...

Так ужо і забываецца? Наўмысна? А мне здаецца, у нас апошнім часам нямала напісана, што камуністамі былі і Чарвякоў, і Жылуновіч (Цішка Гартны), і той жа Ігнатоўскі. Пастановы ЦК таксама ўспамінаюцца. Аднак чаму б у інтэрв'ю не ўспомніць: працавалі камуністы разам з Лёсікам, Ластоўскім, Некрашэвічам, Дылам, іншымі выдатнымі дзеячамі беларускай культуры... Якія вельмі хутка сталі ахвярамі бальшавіцкага вераломства і гвалту. Некаторых пачалі нават знішчаць у 20-я. А «ліквідаваўшы» беспартыйных «нацдэмаў», Малох таталітарызму пачаў потым жэрці саміх ініцыятараў «клясавай» нянавісці.

Так, далей у інтэрв'ю згадана: «мудрае» сталінскае кіраўніцтва ў сваім вынішчальным размаху не рабіла выключэння ні для беларускага мастацтва, ні для беларускіх камуністаў. У агні «класавай барацьбы» (ці лепш — вынішчэння нацыянальных кадраў) гарэлі і тыя, і другія . Слушная заўвага: то было «азіяцкае дзікунства». Але ці толькі — «факты самавольства» тырана? Яго што — наслалі злыя чараўнікі? Ці ўсё ж выбралі сабе ў правадыры члены кіруючай (і адзінай — канкурэнтаў самі знішчылі) партыі «новага тыпу»? Калі не прызнаць тое вынікам адпаведнай палітычнай практыкі і сістэмы, не праналізаваць як найглыбей, каб рашуча перабудаваць, ці не павісне аднойчы зноў над галовамі чарговага пакалення, пажадаўшых звацца людзьмі, беларусаў старая крывавая сякера «азіяцкага дзікунства»?

Так, пагодзімся: у кіраўніцтве Кампартыі рэспублікі знаходзіліся і такія людзі, якія спрабавалі неяк абараніць ад гвалту творчую нацыянальную інтэлігенцыю. У інтэрв'ю згадваюцца П. Панамарэнка, К. Мазураў, П. Машэраў, Ц. Кісялёў, І. Палякоў. Можна, пэўна, успомніць добрым словам і А. Т. Кузьміна. Хоць і яны былі не без граху. Не ў гэтым зараз справа. А ў тым, што сам А. У. Русецкі зазначае следам: мацней за іхнія добрыя намеры аказваўся той жа «суслаўскі прэс», які беспакарана мог пры жаданні прасаваць мастацкае поле рэспублікі — члена Арганізацыі Аб'яднаных Нацый!

Дык у чым сакрэт? Чаму той маскоўскі «прэс» так лёгка прабіваў нават заслону першых сакратароў ЦК Кампартыі рэспублікі, не кажучы пра другіх ці трэціх? Таму што былі яны магутнымі для падначаленых, а для цэнтра ўсяго толькі «намеснікамі»? А мо тут і яшчэ нейкая злавесная прычына? Гэтае пытанне зараз задаюць сабе ўсе сумленныя людзі, асабліва ў свеце падзей апошніх тыдняў.

А. У. Русецкі ці не першы з кіраўнікоў ЦК КПБ прызнаў, прычым, па ягоных словах, «адназначна станоўча», ролю беларускай творчай інтэлігенцыі ў перабудоўчым працэсе. Думаецца, ён не стане і са сказанага тут выцэджваць «злопыхательства». Калі пытанне стала аб нашым агульным нацыянальным выжыванні, было б самагубствам шукаць новых «класавых» ворагаў, а не ўзаемапаразумення.

Першым, зноў-такі без нядаўняй эквілібрыстыкі папярэднікаў, прызнаў А. У. Русецкі ў інтэрв'ю і тое, што «актыўнасць вялікай группы пісьменнікаў, акцёраў, мастакоў, дзеячаў тэатра і кіно Беларусі паклала пачатак грамадскаму руху за адраджэнне нацыянальнай мовы і свядомасці, увекавечванне памяці ахвяр сталінскіх рэпрэсій 30—40-х і пачатку 50-х гадоў, захаванне помнікаў гісторыі і культуры, больш глыбокае вывучэнне ва ўсіх тыпах навучальных устаноў гісторыі БССР і г. д.» А таксама, што «дзеячы літаратуры і мастацтва былі сярод арганізатараў новых грамадска-палітычных («Мартыралог Беларусі»), экалагічных («Беларускі экалагічны саюз»), культурна-асветніцкіх і мастацкіх арганізацый (рэспубліканскае «Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны», «Таварыства аматараў яўрэйскай культуры» ў Мінску,«Беларускі ПЭН-цэнтр»), якія аказалі значны ўплыў на духоўныя і нават грамадска-палітычныя абставіны ў рэспубліцы». На вялікі жаль, не згадаў пра БНФ. Як і пра тое, што «Мартыралог Беларусі» — арганізацыю, такую неабходную для духоўнага ачышчэння грамадства (ды і дзейснай падтрымкі людзей, пацярпелых ад сталіншчыны, знямоглых гаротнікаў), улады нашы, практычна падпарадкаваныя КПБ, не зарэгістравалі..

Але ёсць яшчэ больш трывожнае, здольнае нават паставіць пад сумненне — ці сапраўды шчыра новае кіраўніцтва ЦК КПБ распачало пошук грамадскай згоды і дбае менавіта пра беларусаў з іх нацыянальна-культурнымі патрэбамі як этнасу, а не арыентуецца па-ранейшаму на ўладапаслухмянае «насельніцтва», трохі дзеля каларыту падфарбаванае беларушчынай?

Вернемся да пачатку гэтых нататак і яшчэ раз зірнем на першую старонку «Звязды», дзе побач з інтэрв'ю аказалася заметка з клічнікам, калі просіцца пытальнік. Там вось пра што: з першага лютага гэтага года падпісчыкі «Сельской газеты» пачынаюць атрымліваць узамен... «Белорусскую ниву». Не будзем пра тое, як сталася, што нядаўняя «Сельская газета» пазбавілася не толькі назвы, але і падлегласці Вярхоўнаму Савету і Савету Міністраў БССР, назваўшыся толькі «органом ЦК КПБ и Союза аграрников БССР». Чаму дадаліся сюды «аграрники», цікавую версію выказаў чытач «Народнай газеты» (№ 26). Зараз пра іншае і ў дадзеным выпадку куды больш істотнае.

Ужо нават і фармальнае цяпер поўнае падначаленне газеты ЦК КПБ ускладае на апошняга цалкам вынікі падобнай акцыі. Дарэчы, як вядома, некалі менавіта ЦК КПБ пасля ўхвалы ягонай дзейнасці па русіфікацыі краю М. С. Хрушчовым (Генсек сказаў: такім шляхам беларусы першымі дасягнуць камунізму) загадаў «Сельскую газету» (перад тым — «Калгасная праўда», а калісьці — «Беларуская вёска», «Савецкі селянін» з літаратурным дадаткам «Чырвоны сейбіт» і г. д.) друкаваць на рускай мове. Такім чынам траянскі конь русіфікатарства свядома ўводзіўся ў самы крынічны асяродак беларускага этнасу — у вёску. Ну, няхай, было і сплыло. Цяпер, здаецца, яшчэ ўсё ж перабудова. Ва ўсякім разе ў інтэрв'ю гэта не адмаўляецца, а дэсантнікі, якімі кіруюць «Комитеты национального спасения» на платформе КПСС, пакуль у Прыбалтыцы. Тады пытанне: дык што перашкодзіла новым кіраўнікам ЦК КПБ, у тым ліку шаноўнаму Аркадзю Уладзіміравічу, пастанавіць, каб камуністычная газета для сяла аднавіла нарэшце выхад па-беларуску? Кіруючыся Законам аб дзяржаўнасці мовы карэннага насельніцтва, дарэчы. Клапоцячыся аб захаванні самога этнасу. Меркантыльная боязь страціць частку падпісчыкаў? А чаму не пабаяліся гэтага кіраўнікі, скажам, прафсаюзаў Беларусі, блаславіўшы «Працу» (цяпер — «Беларускі час») хоць бы для пачатку на двухмоўе? Іх жа ніхто не прымушаў. Чаму не пабаяліся, а паверылі ў цвярозы розум сваіх падпісчыкаў «Народная газета», выданне Мінскага гарсавета «Добры вечар», «Юрыдычная газета»? Ды і рускамоўная наша газета «Знамя юности» знайшла магчымасць на сваіх старонках прапагандаваць белурскае слова, рэгулярна публікуючы змястоўны спецыяльны раздзел «Родны склон»!

Дык у чым справа? Няўжо зноў у традыцыйным адрыве лозунгаў ад практыкі?

Дарэчы, і слова, якое распаўсюджваецца «абноўленай» «Сельской газетой», яскрава сведчыць, што іменна імкнуцца ўбіць у галовы сялян. Для ілюстрацыі ўсяго некалькі цытат з практычна перадавога, а значыць праграмнага, артыкула газеты ад 6 лютага — «Истоки сепаратизма». У артыкуле праводзіцца думка, што лепш за ўсё наогул ліквідаваць федэрацыю (ці не будзе гэта і здзейснена, калі мы зараз дружна прагаласуем на рэферэндуме за «обновленную» федэрацыю, добра не разабраўшыся, у чым абнаўленне) і стварыць «централизованную социалистическую республику с одной столицей, областями и районами». Для чаго? А таму што аказваецца: «такое административно-территориальное деление привело бы к ликвидации 35 Советов Министров, 15 Центральных Комитетов партии и комсомола...» Словам, «система управления стала бы четкой и жестко управляемой (мусіць, Указамі? — Э. Я.) — центр, область, район»... Што ж, сапраўды гіганцкая эканомія сродкаў на начальстве. На прапагандыстах таксама, відаць?

Так вось у «абноўленай» былой «Сельской газете» разабраліся з дзяржаўнай структурай Саюза. А як з нацыянальнасцямі і «нацыяналістамі»? І тут, аказваецца, усё прасцей, чым нават прапануе цэнтральны Прэзідэнт. Дарэмна ён валэндаецца з гэтай суверэннасцю рэспублік, якая перашкаджае абвясціць падпісанне Дагавора проста чарговым Указам. «Какие республики, какого Договора? — дзівіцца аўтар «Истоков сепаратизма». — А ведь федерация существует с 1922 года как Союз Советских Социалистических Республик. И возникла она не как вечная федерация, а как переходная ступень (??!) на пути к созданию единой централизованной социалистической республики». Так вось. А мы ўсё пра Канстытуцыю, суверэннасць.

# БЕЛАРУСКІ НАРОД І ЯГО МОВА

*Праф-акад. Я. КАРСКІ*

## II. УТВАРЭННЕ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАСЦІ І МОВЫ

Заканчэнне. Пачатак у № 1. Праца надрукавана са скарачэннямі і з адступленнямі ад дарэформеннага правапісу (па тэхнічных прычынах).

Цяперашняя беларуская мова зложылася паступова, гістарычна, з мовы тых даўнейшых славянскіх плямёнаў, якія пераважна ў эпоху літоўскага перыяду беларускай гісторыі леглі ў аснову беларускай народнасці. Наколькі можна меркаваць з паведамлення нашага пачатковага летапісу, гэтыя плямёны былі — дрыгавічы, радзімічы і часткова крывічы (полацкія і смаленскія). Зблiжэнне гэтых плямёнаў асабліва ўмацавалася ў перыяд удзельнавечавага жыцця, але зусім зліліся яны ў адну беларускую народнасць у XIII—XIV стагоддзях. Тады ж, і часткова пазней, беларусы ў некаторых месцах асімілявалі сабе севяран, вяцічаў і нават некаторыя літоўскія плямёны, напрыклад яцвягаў і голядзь. Утвораная гэтак беларуская народнасць і яе мова духоўна зусім пакарыла сабе літоўцаў-жмудзінаў. (Апошнія пачалі пераймаць у беларусаў нажытую імі цывілізацыю, памалу засвойвалі мову і нават іх рэлігію грэчаскага вызнання). Ужо пры Альгердзе ўрад знайшоў патрэбным прызнаць рускую (беларускую) мову афіцыйнай; следам за ўрадам пайшлі і вышэйшыя слаі грамадства. Вось як аб гэтым казаў папе ў сваёй прамове ў 1501 годзе віленскі прэлат Эразм Вітэлі: «Літоўцы маюць уласную мову. Але дзеля таго, што русіны насяляюць сярэдзіну дзяржавы, то ўсе звычайна карыстаюцца іх мовай, бо яна далікатная і больш лёгкая».

У гэтыя часы беларуская мова ўжо мела ў сабе амаль усе тыя фанетычныя і марфалагічныя асаблівасці, якія характарызуюць яе цяпер; толькі слоўнікавы склад яе і сінтаксічны бок змяняліся і далей, у эпоху польскага панавання і ўплыву, які быў досыць значны ўжо ў XV ст. і вельмі пашырыўся ў XVI і ў далейшыя часы, да часу прылучэння Беларусі да Маскоўшчыны. Соймы, гарадскія самаўпраўленні паўсталі ў Беларуска-Літоўскай дзяржаве і згодна з Магдэбургскім правам заклікалі да дзяржаўнага жыцця і дзейнасці вышэйшыя і сярэднія саслоўі гарадскога насельніцтва, прымусілі звярнуць асаблівую ўвагу на мову як галоўны сродак грамадзянскіх інтарэсаў. Літаратурная мова, якая панавала тады і была агульнай для Заходняй і Усходняй Русі, поўная царкоўнаславянізмаў, для зазначанай мэты не падыходзіла, як ужо і раней, яна была няздатнай для грамат і актаў. Развіццю царкоўнаславянскай мовы, хоць і з беларускімі рысамі, на Беларусі перашкаджала, між іншым, адсутнасць на ёй адукацыі ў праваслаўнага духавенства, яно мусіла самачынна ўжываць гэтую мову і захоўваць яе. З гэтай прычыны дзеля грамадзянска-дзяржаўных інтарэсаў трэба было звярнуцца да народнай мовы. А з-за таго, што народная мова не мела патрэбных тэрмінаў, якія адпавядалі б новым паняццям, прыйшлося браць іх з іншых моў, у першую чаргу — з польскай і праз яе з заходнееўрапейскіх моў, бо з імі былі знаёмы праз Польшчу вышэйшыя і сярэднія саслоўі на Беларусі. Пазней, дзякуючы пашырэнню палітычнай і рэлігійнай уніі з Польшчай (у канцы XVI ст.), калі ўмацаваўся на Беларусі польскі каталіцызм, уплыў польскай мовы на народ і духавенства стаў вельмі прыметны.

З гэтай прычыны апрацаваная к канцу XVI ст. беларуская літаратурная мова была перасыпана паланізмамі, галоўным чынам у слоўніку. Але побач з літаратурнай мовай жыла народная мова, якая таксама мела крыху паланізмаў. Фанетычныя (у гуках) і марфалагічныя (у будове і зменах слова) асаблівасці ў той і другой мовах развіваліся супольна, аднолькава; але сінтаксіс у літаратурнай мове часта адступаў ад сінтаксісу народнай, а слоўнік яшчэ больш розніўся, асабліва ў перакладных творах. У больш неакуратных з іх польскі арыгінал часта толькі перапісваўся кірыліцаю, ды ў фанетыцы і марфалогіі часткова выпраўляліся відавочныя польскія элементы. Іграць ролю літаратурнай і афіцыйнай мовы ёй прыйшлося доўга, аж пакуль яе не выціснула з судова-адміністрацыйнай практыкі польская мова, хоць ў іншым ужытку яна існавала і далей, да канца XVIII стагоддзя, і часта перадавалася польскім пісьмом (лацінкаю). Народная беларуская мова жыве і дагэтуль. У пачатку XIX стагоддзя рабіліся захады надаць ёй літаратурную апрацоўку, але гэта было зроблена толькі ў канцы XIX і ў пачатку XX стагоддзя.

## III. ПОМНІКІ СТАРОЙ І СУЧАСНАЙ БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ. НАВУКОВАЕ ЯЕ ДАСЛЕДАВАННЕ

І старая літаратурная беларуская мова і сучасная народная беларуская гутарка дайшлі да нас, першая — у пісьмовых помніках, а другая — у жывой мове. Па той прычыне, што час з'яўлення і пашырэння старажытнабеларускай мовы, наколькі можна было бачыць з папярэдняга матэрыялу, адносіцца галоўным чынам да XVI—XVII стагоддзяў — часу не вельмі адлеглага ад нас, і, да таго, багатага праявамі грамадска-палітычнага жыцця, помнікаў з асаблівасцямі беларускай мовы, што ляжалі ў аснове старой літаратурнай беларускай мовы, дайшло да нас вельмі многа. Мы маем масу грамат і актаў, асабліва судовых і іншых старажытных дакументаў, шмат рукапісных кніг — да набажэнства, біблійных, святаайцецкіх, летапісаў, хронік, хранографаў, белетрыстычных у форме апавяданняў, запісак і мемуараў, вершаў і інш., а яшчэ больш — кніг даўнейшага друку. У адным толькі Віленскім архіве апісаных актаў маецца больш за 200 000; грамат толькі да канца XV ст. вядома больш за 130; неюрыдычных рукапісных кніг з XIV да канца XVI ст.

